№ 9 (24)



# КЛЯСАВАЯ БАРАЦЬБА У ГЕРМАНІІ

## Адкрытая дыктатура буржуазіі ў Германіі

Асноўнае ў тэй ацэнцы міжнароднага становішча, якую даў XII пленум ВККІ, заключаецца іменна ва ўстанаўленьні таго факту, што адносная стабілізацыя капіталізму кончылася, што ў цяперашні момант зьдзяйсьняецца пераход да буйных насільніцкіх сутычак паміж клясамі і дзяржавамі, пераход да другога туру рэволюцый і войн.

З кожным днём гэтая ацэнка пленуму ВККІ пацьвярджаецца ўсё новымі і новымі фактамі. Апошнія падзеі ў Германіі як нельга лепш пацьвярджаюць правільнасьць рашэньняў Комінтэрну.

Прыход да ўлады ў Германіі ўраду Гітлера, і зьвязаныя з гэтым дзікі тэрор супроць рабочай клясы, нячуваныя провокацыі ў адносінах компартыі з усёй відавочнасьцю гавораць аб бясьсільлі буржуазіі вырашыць на аснове старых «конституцыйных» форм кіраваньня задачы, якія стаяць перад ёй.

«Ва ўмовах надзвычайнага абвастрэньня экономічнага і політычнага стано-

вішча ў Германіі, калі, з аднаго боку, комуністычная партыя стала ўжо вялізарнай сілай у рабочай клясе і быстра насьпявае рэволюцыйны крызіс, калі, з другога боку, выявіліся глыбокія супярэчнасьці ў саміх пануючых клясах і фашысцкая дыктатура ў форме ўраду Папена і Шлейхэра аказалася ня ў стане прыпыніць рост комунізму і знайсьці які-небудзь выхад з экономічнага крызісу, які ўсё абвастраецца, германская буржуазія перадала ажыцьцяўленьне адкрытай фашысцкай дыктатуры фашысту Гітлеру і яго «нацыянал-соцыялістычнай партыі» (з рэзолюцыі Прэзыдыуму ВККІ).

Буржуазія Германіі, перадаючы ўрадавую ўладу фашыстам, пераходзіць да адкрытай, аголенай формы сваёй дыктатуры ў сілу набліжэньня «насільніцкіх сутыкненьняў паміж клясамі».

Масы працоўных на справе, на сваім асабовым вопыце пазнаюць усю ілжывасьць буржуазных і соцыял-дэмократычных размоў аб «народнай» дзяржаве, аб свабодах і інш.

«Калі буржуазія і прывыкшыя служыць ёй чыноўнікі, служачыя, урачы, інжынеры і інш. ужываюць самыя крайнія меры супраціўленьня, гэта прыводзіць

у жах інтэлігенцікаў. Яны дрыжаць ад страху і крычаць яшчэ больш піскліва аб неабходнасьці вярнуцца да «згодніцтва». Нас-жа, як і ўсіх шчырых прыяцеляў прыгнечанай клясы, крайнія меры супраціўленьня эксплёататараў могуць толькі радаваць, бо мужаньня, высьпяваньня пролетарыяту да ўлады мы чакаем не ад угавораў і ўгаворваньняў, не ад школы салодзенькіх пропаведзяй, або павучальных дэклямацый, а ад школы жыцьця, ад школы барацьбы» (Ленин, т. XXII, стр. 157).

## Каго вядуць за сабою фашысты

Германія зьяўляецца ня толькі краінай капіталістычнай, з усімі супярэчнасьцямі, выцякаючымі з вышэйшай імпэрыялістычнай стадыі разьвіцьця ў ёй капіталізму, але і краінай, пастаўленай дзяржавамі-пераможцамі ў імпэрыялістычнай вайне 1914 — 1918 гг. у цяжкія экономічныя і політычныя ўмовы. Вось чаму сусьветны экономічны крызіс з ўсёй вастратой адбіўся на германскім капіталізьме.

Прамысловая продукцыя Германіі, узятая ў 1928 г. за 100 проц., упала ў 1930 г. да 89 проц., у 1931 г.—да 72 проц., 1932 г.—да 57 проц. Германская прамысловасьць адкаці-

лася назад на 35 год. Адносная вага германскай прамысловасьці ў сусьветнай прамысловасьці з 14,6 проц. у 1928 г., упала да 8,9 проц. у 1932 г.

Мацней за ўсё ўпала вытворчасьць сродкаў вытворчасьці, яна скарацілася ў параўнаньні з 1929 г. на 60 проц.

Праведзенае вялізарнае зьніжэньне зарплаты, скарачэньне соцыяльнага страхаваньня, зьбядненьне сялянства няўнікнёна скарачаюць пакупную здольнасьць насельніцтва, а г. зн. прадстаіць і рэзкае скарачэньне вытворчасьці сродкаў спажываньня. За 6 месяцаў 1932 г. тэкстыльная прамысловасьць скарацілася больш, чым за два папярэдніх гады (1930—31 г. на 10,7 проц., 1932 г. на 14 проц.). Прадстаіць далейшае абвастрэньне экономічнага крызісу.

Скараціўся за гады крызісу і зьнешні гандаль Германіі. Увоз з 1121 млн. марак у месяц у 1929 г. упаў да 398 млн. марак, вываз з 1124 млн. марак—да 482 млн. марак. Зьнешнія рынкі прадаўжаюць скарачацца. Конкурэнцыя на сусьветным рынку абвастраецца, даходзячы да бойкоту германскіх тавараў у паасобных краінах. Усё гэта яшчэ больш пагаршае становішча германскай гаспадаркі.

Выручка сельскай гаспадаркі ўпала з 10 млрд. у 1929 г. да 7 млрд. у 1932 г. Запазычанасьць сялянскай гаспадаркі настолькі вя-

лікая, што 60 проц. дробных і 70 проц. сярэдніх гаспадарак ня могуць плаціць даўгі. У Мэкленбургу да $1/3$, ва Ўсходняй Прусіі да $1/4$, у Помэраніі да $1/5$ зямельных плошчаў падлягае продажу з малатка за даўгі.

Рэальная зарплата нямецкага рабочага за гады крызісу панізілася на $1/3$, колькасьць беспрацоўных складае 9 млн., г. зн. з кожных чатырох рабочых двое беспрацоўных.

Па паасобных галінах паніжэньне зарплаты яшчэ мацнейшае. Так, тыднёвая зарплата з 1929 г. па 1 лютага 1933 г. у будаўнікоў з 50 марак упала да 9 марак, у мэталістаў—з 42 да $17\frac{1}{2}$ марак. Буржуазны экономіст Кучынскі вызначае страты прамысловых рабочых Германіі за гады крызісу ў 25 млрд. марак.

Каб зарплата рабочага адпавядала мінімальнаму ўзроўню жыцьця, каб рабочы не галадаў, трэба зарплату мэталістаў павялічыць на 117 проц., тэкстыльшчыкаў на 150 проц., будаўнікоў на 335 проц.

Ня ў лепшым становішчы знаходзіцца і працоўнае сялянства. Адны толькі проценты па даўгох па сельскай гаспадарцы складаюць адзін мільярд марак у год.

«Усё закладзена, а прадаваць з малатка бясэнсна, ніхто ня купляе»,—так рысуюць становішча сваіх гаспадарак бедьякі і серадьнякі Германіі ў сваіх шматлікіх пісьмах.

Эканамічны крызіс пагоршыў становішча і дробнай буржуазіі, і чыноўніцтва. Дзесяткі тысяч інтэлігентаў розных прафэсій аказаліся без работы. Дробныя гандляры разараюцца конкурэнцыяй вялізарных унівэрсальных магазынаў монаполістычнага капіталу.

Рэзкае пагоршаньне становішча пролетарыяту, разарэньне мільёнаў дробных сялянскіх гаспадарак, паніжэньне матэрыяльнай забясьпечанасьці дробнай і сярэдняй буржуазіі выклікалі рэзкае незадаваленьне шматлікіх дробнабуржуазных слаёў і сялянства старымі буржуазнымі партыямі, зрабіла гэтыя слаі больш успрыймальнымі да шовіністычных і дэмагогічных лёзунгаў фашыстаў. Пачынаючы з 1928 г. «народныя» партыі Германіі, нацыяналісты на выбарах пасьлядоўна трацяць галасы выбаршчыкаў, а партыя нацыянал-соцыялістаў быстра павялічвае галасы выбаршчыкаў.

> «Моцны наступальны рух нацыянал-соцыялістаў у пэўнай ступені мае сваёй базай тыя слаі, якія раней былі старонькамі старых буржуазных партый, але ў сілу сваёй варожасьці да капіталістычнага ладу і яго хаосу адыйшлі ў бок нацыянал-соцыялізму і таму аддалі свае галасы Гітлеру. Гэтыя масы, асабліва дробныя буржуа, служачыя, вучні, сяляне і ў невялікай меры таксама рабочыя, інстынктыўна настроены супроць

капіталізму і супроць пляну Юнга. Да партыі нацыянал-соцыялістаў з яе лёзунгамі... гэтыя масы ішлі ў надзеі палепшаньня свайго становішча і выхаду з крызісу ў рамках капіталістычнага ладу» (Тэльман, — На XI пленуме ВККІ).

## Чаму перамог Гітлер

> «Устанаўленьне фашысцкай дыктатуры ў Германіі зьяўляецца ў канчатковым разе вынікам соцыял-дэмократычнай політыкі супрацоўніцтва з буржуазіяй на працягу ўсяго існаваньня Вэймарскай констытуцыі».

Пачынаючы з лістападаўскай рэволюцыі 1918 г. і да апошніх дзён германская соцыял-дэмократыя пры ўхваленьні ўсяго II Інтэрнацыяналу вяла барацьбу супроць рэволюцыйных мас і авангарду пролетарыяту — комуністычнай партыі. Пад выглядам тактыкі «Меншага зла» германская соцыял-дэмократыя супрацоўнічала разам з буржуазіяй, дапамагала росту рэакцыі.

> «Паступовыя і неперарыўныя ўступкі рэакцыі, паступовае скасаваньне аднаго пункту констытуцыі за другім, аднэй заваёвы рабочых за другой, паступовая фашызацыя ўсяго дзяржаўнага апарату

> настолькі дыскрэдытавалі Вэймарскую коаліцыю (соцыял-дэмократы, партыя цэнтру, «дэмократы».—**Рэд.)** і Вэймарскую рэспубліку, што яны страцілі колькі-небудзь сур'ёзнае значэньне ў вачох шырокіх мас».

У момант мацнейшага экономічнага крызісу, які ўсугубіў цяжкасьць зьнешняга вэрсальскага нацыянальнага гнёту, у момант нязвычайнага зьніжэньня жыцьцёвага ўзроўню рабочых мас і нябывалага разарэньня сялянства і дробнай буржуазіі ўспыхнуў бурны рост нямецкага нацыяналізму і шовінізму, які значна ўмацаваў палітычнае становішча буржуазіі і вынес на паверхню найбольш дэмагогічную нацыяналістычную партыю — партыю «нацыянал-соцыялістаў».

Пролетарыят, у сілу неперарыўнага прадажніцтва інтарэсаў рабочых з боку германскай соцыял-дэмократыі, аказаўся ў такім становішчы, калі ён ня мог і сапраўды ня змог організаваць рашучы адпор супроць дзяржаўнага апарату, уключыўшага ў свой склад для барацьбы супроць пролетарыяту баявыя організацыі фашысцкай буржуазіі: штурмавыя атрады нацыянал-соцыялістаў, «Стальны шлём» нацыяналістаў, рэйхсвэр (армія).

> «Буржуазія бяз сур'ёзнага адпору змагла перадаць дзяржаўную ўладу ў

краіне ў рукі нацыянал-соцыялістаў, якія выступаюць супроць рабочай клясы сродкамі провокацыі, крывавага тэрору і політычнага бандытызму» (з рэзолюцыі Прэзыдыуму ВККІ).

## Дэмагогія фашызму

Буржуазія ня толькі Германіі, а і іншых краін капіталу або ўжо ажыцьцявіла фашысцкую дыктатуру, або пераходзіць ва ўсё большай і большай меры да яе, прымяняючы (у рознай ступені і форме) фашысцкія мэтоды няпрыкрытага насільля над працоўнымі. Фашызм, такім чынам,—мэтод кіраваньня няпрыкрытага насільля над працоўнымі, які буржуазія прымяняе ў даную эпоху крызісу капіталізму для падаўленьня нарастаючай рэволюцыі пролетарыяту.

Буржуазія адчувае патрэбу ў масавай фашысцкай партыі, якая сваёй дэмагогіяй, сваімі лёзунгамі ўцягвала-б у свае рады масы адыходзячых ад старых партый дробных буржуа і часткова рабочых. Гэтая партыя павінна ажыцьцяўляць тэрор і разгром рабочых організацый, фізычнае зьнішчажэньне актыўнай часткі рабочай клясы. Такой масавай фашысцкай партыяй у Германіі зьяўляюцца нацыянал-соцыялісты.

Фашысцкія верхаводы, ідучы да ўлады, у сваёй агітацыі прызнавалі цяжкае становішча сярэдніх слаёў германскага насельніцтва.

Але віну за гэта фашысты накладаюць не на капіталістычны лад і яго супярэчнасьці, а на пасьляваенную буржуазную рэспубліку, на Вэрсальскі дагавор, на «фінансавы» капітал. Яны суляць гібель дробнабуржуазным слаём пры буржуазнай рэспубліцы, у той-жа час не шкадавалі самых шырокіх абяцаньняў па палепшаньні становішча розных груп насельніцтва пры сваім прыходзе да ўлады, даючы лёзунг стварэньня трэцяй імпэрыі—імпэрыі «працы». Умела выкарыстоўваючы нянавісьць дробнай буржуазіі супроць краін-пераможцаў, супроць Вэрсальскага дагавору, нянавісьць працоўных мас супроць банкаў, буйных гандляроў, нацыянал-соцыялісты паказвалі сябе, як барацьбітоў супроць ланцугоў вэрсальскага рабства, як ярых староньнікаў усямернага палепшаньня становішча працоўных мас.

Нацыянал-соцыялісты абвясьцілі, што іх прыход да ўлады павядзе да адмаўленьня ад вэрсальскага дагавору, да выкананьня праграмы нацыянал-соцыялістаў, агалошанай яшчэ ў 1920 г.:

> «Мы патрабуемураўненьня нямецкага народу ў правох у параўнаньні з іншымі нацыянальнасьцямі, зьніжтажэньня Вэрсальскага і Сан-Жэрмэнскага дагавораў».
>
> «Зьнешні вораг,—кажуць фашысты,— гэта ўсе іншакраінцы і, галоўным чы-

нам, яўрэі, якія разараюць і грабяць германскі народ».

«Унутраны вораг—гэта марксысты, комуністы, соцыял-дэмократы, якія садзейнічалі паражэньню Германіі ў вайне з Францыяй, якія вінаваты ў стварэньні рэспублікі».

Для таго, каб заваяваць дробнабуржуазныя масы, якія аграблены і разарыліся ў ходзе капіталістычнага разьвіцьця і сучаснага крызісу, масы, якія ненавідзяць буйны капітал, што разарае іх, нацыянал-соцыялісты абвясьцілі сябе «праціўнікамі» капіталізму, выступаючы супроць пазычковага, банкаўскага капіталу, супроць процанта.

«Факт пануючага становішча банкаў, — піша фашысцкі тэорэтык Фэдэр,—паказвае, што з пункту гледжаньня інтарэсаў народнай гаспадаркі капіталістычная ідэя бяссэнсоўна». Адсюль лёзунг фашыстаў: «зьніштожце яўрэяў і вы зьнішторжыце капіталізм, зьнітожыце ўсе бядоты і няшчасьці ня толькі нямецкага народу, але і ўсяго сьвету, бо над сьветам пануе біржа, а над біржай... яўрэі».

Такая чорнасоценная агітацыя ўлічвала шовіністычныя і антысэміцкія настроі, ту-

пасьць і абмежаванасьць дробнабуржуазных мас, несьвядомасьць найбольш адсталай часткі рабочых.

Гэтая дэмагогічная агітацыя давала магчымасьць нацыянал-соцыялістам выстаўляць сябе, як барацьбітоў супроць капіталізму і іншакраінных імпэрыялістычных дзяржаў. Фашыстам удалося ўцягнуць у штурмавыя атрады пэўны лік рабочых. За фашыстаў падана на апошніх выбарах звыш 17 млн. галасоў.

Зразумела, што фашысты ня выканаюць ніводнага свайго абяцаньня ў справе палепшаньня становішча працоўных і дробнай буржуазіі, у справе вызваленьня Германіі ад Вэрсальскага дагавору.

Агалцелая фашысцкая дыктатура Гітлера, якая пачала грамадзянскую вайну ў краіне, ня можа вырашыць ніводнага палітычнага і экономічнага пытаньня сучаснай Германіі. Беднасьць і нястача мас узрастае з кожным днём.

> «Становіцца ясным, што Гітлер вядзе Германію да экономічнай катастрофы, якая становіцца ўсё больш нямінучай».
>
> «Кожны новы дзень ураду Гітлера будзе ўсё больш ясна паказваць ашуканства, афярамі якога сталі масы, пайшоўшыя за Гітлерам».

Буржуазія Германіі, дапускаючы фашыстаў да ўлады, і сама фашысцкая ідэя маюць

толькі адну мэту—разграміць рэволюцыйную рабочую клясу, прымусіць рабочую клясу і працоўнае сялянства голадам, новымі нястачамі забясьпечыць новыя накапленьні буржуазіі ў яе барацьбе з іншымі імпэрыялістычнымі драпежнікамі.

## Чые інтарэсы абараняюць фашысты

Нацыянал-соцыялісты — партыя фінансавага капіталу, яна абараняе і абслугоўвае інтарэсы банкаў і прамысловасьці. Буржуазія добра разумее, што агітацыя супроць банкаў фашыстам патрэбна для заваяваньня мас, для лепшай абароны капіталістычнага ладу ад рэволюцыі. Вось чаму банкіры ў тым ліку і яўрэі-банкіры ахвотна даюць вялікія сумы на ўмацаваньне партыі нацыянал-соцыялістаў. Фашысты атрымоўвалі субсыдыі ня толькі ад германскіх буйных капіталістаў, але нават і ад іншакраінных банкіраў, такіх як Дытэрдынг. Фашысты зьяўляюцца паслухмянымі агентамі сваіх дабрадзеяў. Яны, напрыклад, усямерна пачынаюць перашкаджаць савецкаму гандлю нафтапродуктамі ў Германіі ў інтарэсах свайго апекуна Дытэрдынга, ва ўшчэрб народнай гаспадарцы Германіі, і ў першую чаргу, працоўным масам.

«Мы патрабуем колёній,—гаворыцца ў програме нацыянал-соцыялістаў,—для

прахарчаваньня нашага насельніцтва і для засяленьня лішняга насельніцтва нашай краіны».

Зразумела, што колёніі патрэбны не рабочым і сялянам Германіі, а нямецкім банкірам і прамыслоўцам.

«Нямецкі народ,—гаворыцца далей у іх програме,—існуе не для таго, каб прымаць лішкі для вывазу другіх народаў... Усё, што мы можам вытвараць самі, павінна быць вытварана ў нашай краіне... Таму павінна быць праведзена ўсялякае абмежаваньне ўвозу».

Гэта поўнасьцю адпавядае інтарэсам германскай прамысловасьці, якая патрабуе рынкаў, гэта задавальняе і германскіх памешчыкаў, патрабуючы скарачэньня ўвозу сельскагаспадарчых продуктаў у краіну.

Нацыянал-соцыялісты патрабуюць поўнага выкарыстаньня нямецкай зямлі пад апрацоўку, забясьпечаньня патрэбнасьцяй с.-г. продукцыяй самой Германіяй.

Гітлераўскі ўрад павялічыў пошліну на розныя с.-г. продукты на 100 і больш процантаў. Ад гэтага мерапрыемства выйгралі памешчыкі і кулакі, якія сталі атрымліваць больш прыбытак. Але гэта пагоршыла становішча рабочых і гарадзкога насельніцтва

з прычыны таго, што падняліся цэны на паасобныя с.-г. продукты.

Фашысцкі ўрад 15 лютага выдаў закон аб забароне прымусовага продажу с.-г. прадпрыемстваў за даўгі, але гэты закон распаўсюдзілі толькі на гаспадаркі, якія ня мелі даўгоў да крызісу, г. зн. на памешчыцкія і кулацкія, таму што бядняцка-серадняцкія гаспадаркі ў сваёй большасьці былі даўжнікамі і раней.

Прамысловы капітал, паводле програмы нацыянал-соцыялістаў, ёсьць нішто іншае, як самая пачэсная рознавіднасьць працы. Прадпрыемца-фабрыкант, памешчык, паводле вучэньня фашыстаў, зьяўляецца працаўніком, як і рабочы, і селянін. «Прадпрыемцы стварылі свой даход уласнай работай». Адсюль фашысты прызнаюць, што «прыватная ўласнасьць для нас сьвяшчэнна». У 1932 г. фашысцкі тэорэтык Фэдэр разьясьніў, што «нацыянал-соцыялізм прызнае, што і буйнейшыя індустрыяльныя прадпрыемствы, паколькі яны астаюцца прыватнай уласнасьцю (мы маем на ўвазе Крупа, Тысена і інш.) ні ў якай меры не супярэчаць інтарэсам грамадзтва».

За капіталістам прызнаецца права неабмежаванага аграбленьня рабочых і сыстэматычнага зьніжэньня зарплаты пад выглядам зьніжэньня выдаткаў вытворчасьці.

Ад рабочай клясы фашысты патрабуюць, каб «профсаюзы значна больш працавалі для інтарэсаў усёй народнай гаспадаркі. Яны павінны выступіць на абарону інтарэсаў прадпрыемцаў, як і пераважнай большасьці творчага народу».

Нарэшце, фашысты заявілі, што «мы прызнаем нашы даўгі і нашы абавязацельствы і абяцаем іх выплачваць».

Дапамогу памешчыкам і кулакам, разарэньне для дробных сялянскіх гаспадарак, неабмежаваную ўладу капіталістам над рабочымі, яшчэ большае пагоршаньне і без таго галоднага становішча рабочых,—вось што ў сапраўднасьці нясуць фашысты працоўным масам Германіі.

## Хістаньні ў асяродзьдзі германскай буржуазіі

Па колькасьці выбаршчыкаў, пачынаючы з ліпеня 1932 г., нацыянал-соцыялісты на чале са сваім правадыром Гітлерам, сталі найбольш шматлікай партыяй у парляманце. Аднак, прайшло паўгода перш, чым германская буржуазія дапусьціла гітлераўцаў да ўлады. Прыход да ўлады Гітлера ў студзені 1933 г., далёка ня выклікаў радасьці ў розных кругах буржуазіі. Гэта аб'ясьняецца супярэчнасьцямі ў асяродзьдзі самой германскай буржуазіі, у прыватнасьці паміж аграрным і прамысловым капіталізмам. Буйныя

прамысловцы Германії не шкадавалі сродкаў на арганізацыю гітлераўскіх банд, вельмі добра ўлічваючы, што гучныя лёзунгі фашыстаў патрэбны ім для прыцягненьня мас выбаршчыкаў. Буйная буржуазія ўсяляк дапамагала фашыстам у арганізацыі баявых дружын і розных атрадаў для расправы з комуністамі.

Аднак, калі фашызм ператварыўся ў масавы рух, паявіліся і свае затрудненьні для буржуазіі.

Нацыянал-соцыялізм з кожнай сваёй перамогай усё больш высоўвае лёзунг ядынаўладзьдзя нацыянал-соцыялістычнай партыі, адзінай партыі германскай буржуазіі, што выклікае адпор з боку старых буржуазных партый, якія, вядома, жадалі росту і перамог нацыянал-соцыялізму за кошт соцыялдэмократычных і комуністычных партый, але ні ў якім разе не за свой кошт.

Наступная прычына хістаньня часткі германскай буржуазіі ў пытаньні аб дапушчэньні да ўлады нацыянал-соцыялістаў заключалася ў боязьні вынікаў поўнага выкрыцьця фашысцкага характару дыктатуры германскай буржуазіі перад пролетарыятам.

> «Германская монополістычная буржуазія, прыцягваючы нацыянал-соцыялістаў да ўлады, прыняла меры перасьцярогі супроць гітлераўскай соцыяльнай дэмагогіі, сконцэнтроўваючы ўсе

міністэрствы, якія займаюцца эканамічнымі пытаньнямі, у руках Гугенбэрга, прызначаючы намесьнікам Гітлера Папена», г. зн. прымушаючы нацыянал-соцыялістаў падзяляць уладу з нацыяналістамі.

Германская нацыянальная партыя—гэта партыя, якая прадстаўляе інтарэсы буйнага аграрнага і прамысловага капіталу, ваенных кругоў і буйнага чыноўніцтва. Германскія нацыяналісты стаяць за ўзмацненьне ўлады ўраду, за націск на рабочую клясу, за барацьбу з комунізмам, за аднаўленьне даваеннага становішча ў Германіі. «Стальны шлём» зьяўляецца другім атрадам фашызму.

Нацыянал-соцыялісты вельмі незадаволены вымушаным супрацоўніцтвам з нацыяналістамі. Дабіўшыся роспуску рэйхстагу нацыянал-соцыялісты парашылі прадпрыняць рад провокацыйных мерапрыемстваў для забесьпячэньня перамогі на новых выбарах, арганізаваць найбольшы тэрор супроць рабочай клясы.

Самай жорсткай барацьбой з рэволюцыйнымі рабочымі нацыянал-соцыялісты імкнуцца пераканаць буржуазію Германіі ў сваёй здольнасьці верай, праўдай і няпраўдай абараняць інтарэсы германскага імпэрыялізму.

Супярэчнасьці ўнутры нацыянальнай коаліцыі (нацыянал-соцыялістаў і нацыяналістаў)

у лягеры германскага фашызму прадаўжаюць рэзка абвастрацца. Пасьля таго, як фашысцкім рэйхстагам 24 сакавіка дадзена была ўраду неабмежаваная ўлада, фактычна была скасавана ранейшая канстытуцыя Германіі, пачынаюцца новыя сутыкненьні дзьвюх кіруючых партый — нацыянал-соцыялістаў і нацыяналістаў. У Брауншвэйгу Гітлерам распускаецца баявая організацыя нацыяналістаў «Стальны шлём». У Брауншвэйгу справа дайшла да зьбіваньня членамі саюзу «Стальны шлём» членаў гітлераўскіх штурмавых атрадаў. Нацыянал-соцыялісты ставяць сабе мэтай разграміць апору нацыяналістаў «Стальны шлём», які налічвае ў сваіх радох 300 тыс. членаў, пачэсным старшынёй якога зьяўляецца Гіндэнбург. Гітлер ня можа забыць таго, што мобілізацыя 25 тыс. членаў «Стальнога шлёму» 4 сакавіка перашкодзіла захапіць нацыянал-соцыялістам уладу яшчэ да выбараў у рэйхстаг. Падзеі ў Брауншвэйгу—паказальнік росту супярэчнасьцяй у лягеры фашызму.

## Выбары 5 сакавіка пры фашысцкім тэроры

Германскі фашызм мобілізаваў усе сілы, каб лабавой атакай разграміць перадавы атрад эўропейскай рабочай клясы—германскі пролетарыят.

У мэтах запалохваньня нямецкага абывателя комуністычным тэрорам, адцягненьня германскіх рабочых ад галасаваньня за компартыю, фашысты, на чале са сваімі правадырамі—Гітлерам, Гірынгам—ужылі подлую поліцэйскую провокацыю і ашуканства. Компартыя была абвінавачана фашысцкай поліцыяй у падпале будынку германскага рэйхстагу і, на аснове складзенага поліцыяй абвінавачваньня, на германскую компартыю абрушыўся цэлы рад рэпрэсій; арыштаваны тысячы комуністаў, закрыты комуністычныя газэты, забаронена агітацыя на выбарах за кандыдатаў компартыі.

Аднак, уся гэтая провокацыя так нагла і неразумна складзена, што буржуазныя газэты розных капіталістычных краін, значная частка некомуністычных газэт Германіі сталі ўсё больш і больш прыводзіць фактаў, выкрываючых поліцэйскую провокацыю.

Буржуазнымі газэтамі ўстаноўлена, што Ван-дэр-Любэ не комуніст, што ён да падпалу рэйхстагу падтрымліваў сувязь з нацыянал-соцыялістамі і называў сябе нацыянал-соцыялістам.

К дню выбараў у Германіі не асталося ніводнай легальнай рабочай газэты. Агітацыйныя матэрыялы былі конфіскаваны і дэманстрацыі забаронены. Агітацыя за сьпіс компартыі цягнула за сабой безадкладны арышт, а то і сьмерць.

Наводле падлікаў «Таймс», з 1 студзеня г. г. па дзень выбараў фашыстамі забіта 95 рабочых. Колькі забіта на самай справе,—ніхто ня ведае, таксама, як нічога не вядома аб колькасьці параненых. Шэсьць тысяч рэволюцыйных рабочых кінута ў турмы на працягу апошніх 7-8 дзён. Гэта афіцыйныя даныя. Фактычны лік арыштаваных значна вышэй і даходзіць да 10.000.

У турму кінут правадыр компартыі і германскага пролетарыяту — гамбурскі пролетар—Эрнст Тэльман.

Адна трэцяя частка германскіх выбаршчыкаў, якія падалі на мінулых выбарах галасы за комуністаў і соцыял-дэмократаў, на гэтых выбарах была прыгаворана да маўчаньня. Другая трэцяя частка германскіх выбаршчыкаў была напалохана фашысцкім тэрорам і провокацыйнымі выдумкамі.

Нанесьці руйнуючы ўдар комуністычнай партыі Германіі і ўсёй рабочай клясе, заваёва самастойнай большасьці ў рэйхстагу,— вось чаго дабіваўся германскі фашызм, высоўваючы Ван-дэр-Любэ — падпальшчыка рэйхстагу, як комуніста.

Калі фашыстам удалося напалохаць дробную буржуазію і заваяваць яе галасы, то выбары ў рэйхстаг адначасова ясна паказалі, што 5 млн. комуністычных выбаршчыкаў

зьяўляюцца баявой арміяй пролетарскай рэволюцыі, якую нельга разлажыць фашысцкімі провокацыямі.

## Гітлераўскі ўрад—урад грамадзянскай вайны

> «Калі гітлераўскаму фашызму і ўдалося ўзмацніць нацыяналісцкі рух і выкарыстаць 14-гадовую с.-д. практыку для выратаваньня капіталістычнага панаваньня, то грамадзянская вайна гітлераўскага ўраду супроць працоўнага народу зьяўляецца сьведкай слабасьці ўраду».
>
> «Гітлераўскі ўрад грамадзянскай вайны супроць працоўнага народу ня можа даць працоўным ні хлеба, ні работы». (З адозвы ЦК КПГ — «Правда» ад 24/III-33 г.).

Фашысцкі тэрор пасьля выбараў у рэйхстаг значна ўзмацніўся. Вось як апісвае становішча ў Германіі англійская газэта «Манчэстэр Гардыян».

> «Штурмавікі, пасьлядоўцы Гітлера, арыштоўваюць комуністаў у іх кватэрах і на вуліцах. Яны забіраюць іх у нацыянал-соцыялісцкія казармы... дзе комуністаў сякуць розгамі і ламаюць ім пальцы з мэтай атрымаць прызнаньні і адрасы».

«Адзін малады рабочы,—піша гэтая газэта ад 28/III-33 г.,—соцыял-дэмократ быў арыштаваны 4-мя нацыянал-соцыялістамі і адведзен у казарму, дзе яго білі бізунамі і гумовымі дубінкамі».

«Гэтыя прыклады карычневага, фашысцкага тэрору можна было-б памножыць на тысячы разоў. Лік зьбітых да сьмерці, або забітых нажамі і бізунамі, даходзіць да соцень і лік параненых—да тысячы. У той-жа час многія прапалі бяз вестак. Лік асоб, пасаджаных у турму і концэнтрацыйныя лягеры, вызначаецца рознымі крыніцамі ад 20 да 80 тысяч».

«Пагражае небясьпека для жыцьця амаль усіх рабочых, якія або вядомы ў мясцовых організацыях комуністычнай і соцыялістычнай партыі, або былі вядомы ў сваім раёне шчырай політычнай дзейнасьцю».

«Германская рабочая кляса ахоплена цяпер інтэнсыўным масавым хваляваньнем, самым жорсткім з страхаў (страхам, які занадта добра можна зразумець) і стрыманым шаленствам. У Германіі ўзьнікла такая нянавісьць, якая ніколі яшчэ не існавала раней». («Правда» ад 29/III-33 г.).

Фашысцкі ўрад устараніў 81 комуністычных дэпутатаў, законна выбраных у рэйх-

стаг, ня выдаў ім дэпутацкіх мандатаў і многіх пасадзіў у турму.

Фашысты зьдзекуюцца, саджаюць у турмы ня толькі комуністаў і комсамольцаў, але і політычна актыўных рабочых соцыял-дэмократычных партый, членаў розных грамадзкіх організацый.

Самы жорсткі тэрор супроць рэволюцыйных рабочых фашысты суправаджаюць лютай антысэміцкай агітацыяй і організаваным пагромам супроць яўрэяў.

Урад зьяўляецца організатарам гэтых пагромаў, выдаючы спэцыяльныя адозвы пагромшчыкам:

> «Не ламаць пры пагромах магазынных вітрын, бо за зламаныя вітрыны прыходзіцца расплачвацца германскім таварыствам».

Тысячы асоб яўрэйскага паходжаньня, якія пражылі ў Германіі дзесяткі год, уцякаюць за граніцу ад пагромаў.

Тэрор і пагромы фашыстаў у Германіі выклікалі найвялікшую нянавісьць да фашызму ў працоўных розных капіталістычных краін, аб чым сьведчаць шматлікія дэмонстрацыі рабочых у розных гарадох капіталістычных краін.

Пагромная антысэміцкая практыка выклікае абурэньне нават у буржуазнай інтэлігенцыі розных капіталістычных краін. У цэлым

радзе дзяржаў (Англія і інш.) пачынае шырока прымяняцца бойкот германскіх тавараў.

Гэты рух незадавальненьня заграніцай не на жарт напалохаў гітлераўскі ўрад, які паслаў за граніцу для супакаеньня грамадзкай думкі і выхваленьня фашысцкай дыктатуры правадыроў... соцыял-дэмократычнай рабочай партыі.

Аднак, самы жорсткі фашысцкі тэрор ня здолеў разграміць комуністычную партыю Германіі. Комуністы пайшлі ў падпольле, на нелегальнае становішча. Ужо пачала выходзіць «Ротэ Фанэ»—нелегальная газэта ЦК германскай компартыі.

ЦК КПГ заклікае членаў партыі ў сваёй адозве:

> «Глыбей у масы, цясьней зьвяжэцеся з масамі, адважней уперад у барацьбе ядыным фронтам супроць фашысцкай дыктатуры».
>
> «У гэтыя рашучыя дні, калі ва ўмовах нячуванага фашысцкага тэрору компартыя Германіі адступала з баямі, ЦК партыі ні на мінуту не пакідаў свайго паста, ён аставаўся ў самай гушчы рабочай клясы. І гэта будзе памятаць германскі пролетарыят. Ён не забудзе, што яго слаўны правадыр т. Тэльман знаходзіцца зараз у турме таму, што, ня гледзячы на настойваньне раду яго тава-

рышоў часова выехаць з Германіі, Тэльман астаўся сярод германскіх рабочых. Германскі пролетарыят не забудзе, што ня было ні аднаго выпадку масавага адпору рабочых фашыстам, калі комуністы не аказаліся-б у першых радох, ня было ні аднэй сутычкі з фашыстамі на вуліцы, на прадпрыемствах, пры абароне рабочых дамоў, профсаюзаў і т. д., калі комуністы не праяўлялі-б аддасьці справе рабочай клясы» (з артыкулу Фр. Геккерта, «Правда» за 12/IV-33 г.).

## Міжнародныя супярэчнасьці Германіі

Фашысцкі лягер Германіі стаіць перад фактам немагчымасьці безадкладнага зьніштажэньня Вэрсальскага ярма, што было абяцана Гітлерам дробнабуржуазнай масе. Рэпарацыйныя плацяжы Германіі зьлiквідаваны экономічным крызісам, але не нямецкай дыплёматыяй.

Зьмяненьня германскіх граніц, устараненьня абмежаваньняў ва ўзбраеньнях германскай дыплёматыі дабіцца не ўдалося.

Заява Гітлера—«мы заўсёды стаялі за Ўсходнюю Прусію (аддзеленую ад Германіі польскім карыдорам), мы будзем змагацца за Ўсходнюю Прусію да апошняга чалавека»—выклікала, мяркуючы паводле іншакраінных

газэт, вялізарную трывогу і ў Польшчы, і ў Францыі.

Ніколі яшчэ з часу вайны франка-германскія і польска-германскія адносіны ня былі так напруджаны, як цяпер.

Спробы Англіі і Італіі дабіцца згоды 4-х эўропейскіх дзяржаў (Англіі, Францыі, Германіі, Італіі) аб зьмяненьні граніц Эўропы сустракала непрымірымыя супярэчнасьці. Англійская буржуазная газэта «Дэйлі Экспрэс» так выкладае гэтыя супярэчнасьці:

> «1. Паміж Германіяй і Польшчай ідуць вялікія спрэчкі аб польскім карыдоры і меншыя аб Верхняй Сілезіі. Германія патрабуе звароту абодвух. Польшча ўступіць толькі сіле.
>
> 2. Францыя не дазволіць Аўстрыі злучыцца з Германіяй, Малая Антанта не дазволіць Германіі злучыцца з Вэнгрыяй.
>
> 3. Юга-Славія не аддасьць без вайны захвачаную ёю частку былой Вэнгерскай тэрыторыі.
>
> 4. Чэха-Славакія будзе ўтрымліваць захвачаную ёю тэрыторыю Вэнгрыі паміж Венай і Будапэштам да тых пор, пакуль яе ня высадзяць адтуль штыхом».

Проект пакту 4-х дзяржаў вельмі недружалюбна сустракаецца ў французскім блёку

(Францыя, Юга-Славія, Чэха-Славакія), а гэта значыць і прадугледжаная 2 артыкулам пакту роўнасьць правоў за Германіяй ня будзе прызнана Францыяй.

«Германская буржуазія, сыстэматычна скарочваючая і нарэшце поўнасьцю спыніўшая рэпарацыйныя плацяжы, ажыцьцяўляе зараз рукамі Гітлера Шлейхэраўскую програму ўзбраеньня Германіі **явачным парадкам.** Падрыхтоўка да новай імпэрыялістычнай вайны ідзе ліхаманкавым тэмпам. У сучасны момант Гітлер разгарнуў жывую ваенную сілу да аднаго мільёна чалавек (300 тыс. чал. «Стальнога шлёму», 120 тыс.—рэйхсвэру, 500 тыс.—у штурмавых атрадах, калі ня лічыць узброеную, паводле апошняга слова ваеннай тэхнікі, паліцыю). Зусім ясна, што мільённая ўзброеная сіла патрэбна фашызму ня толькі для барацьбы з германскім комунізмам. Дэмагогічныя выступленьні Герынга і Гітлера аб пераглядзе межаў — гэта пакуль намацваньне глебы, паколькі германская буржуазія разумее, што толькі тады, калі Германія ўзброіцца явачным парадкам, яна здолее паставіць ва ўвесь рост пытаньне аб граніцах».

«Шлях вайны — найбольш магчымы шлях фашысцкага разьвіцьця Германіі,

тым больш, што ўся палітычная атмосфэра Эўропы насычана порахам» (з артыкулу Фр. Геккерта), «Правда» за 12/IV-33 г.).

Адзінай краінай, якая ня мае варожых пачуцьцяў да Германіі, зьяўляецца СССР. Паводзіны германскіх фашыстаў кажуць аб моцным імкненьні іх кіраўнікоў ускладніць узаемаадносіны з СССР.

Калі правадыр германскага фашызму Гітлер дазваляе сабе 2 сакавіка ў антысавецкай прамове заявіць, што «лепш быць у Германіі ў турме, чым там (у СССР) на свабодзе», то гэта ўжо адно гаворыць аб антысавецкай політыцы фашыстаў. Гітлер, відавочна, забыўся, што 74 проц., вытвараемых у Германіі машын вывозіцца ў СССР.

Ператварыць Германію ў «бар'ер супроць Усходняга бальшавізму»—такая стаўка германскіх фашыстаў.

Прыход да ўлады Гітлера абвастрае супярэчнасьці паміж імпэрыялістычнымі краінамі, абвастрае супярэчнасьці ўнутры Германіі, набліжае ўсю капіталістычную сыстэму да другога туру рэволюцый і войн.

## Банкруцтва нямецкіх згоднікаў

«Устанаўленьне адкрытай фашысцкай дыктатуры ў Германіі, якое зьяўляецца часткай агульнага наступленьня капі-

талу на рабочую клясу, дэманструе перад усім сьветам банкруцтва політыкі социял-дэмократыі. Усё больш шырокія слаі рабочых пачынаюць сазнаваць, што наступленьне фашызму стала магчымым дзякуючы таму, што социял-дэмократыя перайшла на бок буржуазіі. Пасьля крушэньня Вільгельмаўскай монархіі социял-дэмократыя аказала прамую дапамогу буржуазіі раздавіць пролетарскую рэволюцыю. Забойства правадыроў германскіх рабочых—Карла Лібкнехта і Розы Люксэмбург політычнымі бандзітамі, у ліку якіх быў Пабет, які знаходзіцца зараз у радах нацыянал-социялістаў, ляжыць цалкам на совесьці социял-дэмократыі.

Социял-дэмократыя зрабіла ўсё, каб задушыць рэволюцыйны рух, каб не дапусьціць пераходу мас да адзінасправядлівай вайны за сваё вызваленьне. Яна заключыла для барацьбы супроць народных мас саюз з буржуазіяй і кайзэраўскімі генэраламі. Дзякуючы яе політыцы цяпер да ўлады прышлі самыя цёмныя сілы рэакцыі» («Правда» ад 6/III-33 г.).

«Адкрыты пераход германскай социял-дэмократыі ў лягер фашызму ня можа мець рашаючага значэньня для

падрыву ўплыву соцыял-дэмократыі на рабочыя масы і не ў адной толькі Германіі. Пачынаючы з 4 жніўня 1914 г. германская соцыял-дэмократыя праводзіла політыку **ядынага рэакцыйнага фронту з буржуазіяй** супроць пролетарыяту. Яна праводзіла яе на розных этапах буржуазнай дыктатуры ў Германіі і з рознымі фракцыямі буржуазіі, выступаючы ва ўсіх выпадках на абарону капіталізму і змагаючыся супроць пролетарскай рэволюцыі. Саюзьнікамі соцыял-дэмократыі ў гэтым рэакцыйным фронце станавіліся адзін за другім усё больш рэакцыйныя колы буржуазіі і памешчыкаў аж да прускага юнкерства і мацёрых монархістаў накшталт Гіндэнбурга. А гэта азначала пераход соцыял-дэмократыі да ўсё больш і больш рэакцыйнай політыкі...»

«Яна заключае на прэзыдэнцкіх выбарах саюз з монархістам Гіндэнбургам, процістаўляючы Гітлеру Гіндэнбурга, як абаронцу заваяваньняў лістападаўскай рэволюцыі і вэймарскай конституцыі. Яна фактычна падтрымлівае ўрад Папена—Шлейхэра, выгнаўшага яе 20 ліпеня з прускага ўраду. Яна падрыхтоўвае прыход Гітлера да ўлады, пераконваючы масы, што лепш, калі Гітлер прыдзе «конституцыйным» шляхам, без

супрацiўленьня рабочых, чым у рэзультаце крывавай барацьбы. Са ступенькі на ступеньку яна дапамагае Гітлеру ўзьбірацца да ўлады, задушаючы сваім партыйным і профсаюзным апаратам усе спробы рабочых арганізаваць масавую барацьбу супроць фашызму...»

«У рашучы момант, каб супакоіць рабочых, соцыял-дэмократыя заяўляе, што яна гатова змагацца з фашызмам, але толькі ў належны час. Трэба, бачыце, яшчэ пачакаць. Старшыня саюзу мэталістаў Урых заклікае рабочых не пачынаць барацьбы да таго часу, пакуль Гітлер не нарушыць констытуцыі і не пяройдзе да мэтодаў гвалту. Гэта гаворыцца ў той час, калі фашысты-штурмавікі ўжо разбураюць рабочыя кварталы, забіваюць і зьбіваюць ня толькі комуністычных рабочых, але і рэйхсбанэраўцаў...»

«1 сакавіка соцыял-дэмократыя заяўляе: супрацiўляцца фашызму ўжо надта позна—трэба чакаць, калі фашызм разложыцца сам сабою.

Аб чым гавораць усе гэтыя бясспрэчныя факты, якія прайшлі перад вачыма ўсіх рабочых? Па-першае, яны гавораць аб тым, што германская соцыял-дэмократыя да канца захавала вернасьць **ядынаму рэакцыйнаму фронту** з бур-

жуазіяй; па-другое, што соцыял-дэмократыя падрыхтавала і расчысьціла плянамерна крок за крокам дарогу фашызму і прывяла яго да ўлады; па-трэцяе, што яна сыстэматычна зрывала барацьбу рабочайклясы супроць фашызму, усімі мерамі перашкаджала стварэньню ядынага рэволюцыйнага фронту барацьбы рабочай клясы супроць фашызму; па-чацьвертае, што соцыял-дэмократычная політыка ядынага рэакцыйнага фронту прадвызначыла адкрыты пераход Вэльсаў і Лейпартаў на бок фашызму» (з артыкулу Фр. Геккерта, «Правда» за 12/IV-33 г.).

«Галоўнай перашкодай на шляху ўтварэньня ядынага фронту барацьбы комуністычных і соцыял-дэмократычных рабочых была і ёсьць політыка супрацоўніцтва з буржуазіяй, правадзімая соцыял-дэмократычнымі партыямі, якія паставілі цяпер міжнародны пролетарыят пад удар клясавага ворага. Гэтая політыка супрацоўніцтва з буржуазіяй ведомая пад імем так званай політыкі «меншага зла», прывяла на справе ў Германіі да перамогі фашысцкай рэакцыі» (з адозвы Выканкому Комінтэрну ад 5/III-33 г.).

Кожны дзень існаваньня фашысцкай дыктатуры ў Германіі, якая апіраецца на ўзброе-

ныя банды нацыянал-соцыялістаў і «Стальны шлём» усё больш выкрывае перад рабочымі і працоўнымі Германіі соцыял-дэмократычныя тэорыі аб мірным (без рэволюцыі, праз парлямант) шляху разьвіцьця соцыялізму, разьбівае соцыял-дэмократычную тэорыю супрацоўніцтва з буржуазіяй і політыку «меншага зла».

Рабочая кляса пераконваецца на справе, што правы былі комуністы, калі яны на працягу раду год змагаліся супроць соцыял-дэмократычнай політыкі «меншага зла» і супрацоўніцтва з буржуазіяй.

Масы рабочых на сваім горкім вопыце пераканаліся ў «хараstве соцыялізму» фашыстаў. Фашысты нічога ня маюць супроць выкарыстаць паслугі соцыял-дэмократыі ў справе ашуканства рабочай клясы, ліквідацыі рабочых профсаюзаў, барацьбы з рэволюцыйным рухам.

Аднак, такое адкрытае прадажніцтва інтарэсаў рабочай клясы выклікае разлажэньне ў радох самой соцыял-дэмократыі. Соцыял-дэмократычныя рабочыя, на падставе яднага фронту з комуністамі, будуць усё больш пераходзіць да рэволюцыйных форм барацьбы з адкрытай дыктатурай буржуазіі— фашызмам.

> «Устанаўленьне адкрытай фашысцкай дыктатуры ў Германіі паставіла перад мільёнамі рабочых усіх краін ва ўпор пытаньне аб неабходнасьці організацыі ядынага фронту барацьбы супроць фашысцкага наступленьня буржуазіі, і перш за ўсё, германскай буржуазіі, якая адымае крок за крокам усе экономічныя і політычныя заваёвы рабочай клясы і спрабуе задушыць рабочы рух мэтодамі бязьлітаснага тэрору».

Неаднаразовыя прапановы Комінтэрну соцыял-дэмократычным партыям весьці сумесную барацьбу супроць капіталізму сустракалі неперарыўнае процідзеяньне правадыроў соцыял-дэмократычных партый. Аднак, Комінтэрн яшчэ раз у сваёй адозьве ад 5 сакавіка 1933 г. зьвярнуўся да рабочых усяго сьвету з прапановай організаваць ядыны фронт барацьбы супроць капіталу, фашызму і войн і прапанаваў комуністычным партыям уступіць у перагаворы з соцыял-дэмократычнымі партыямі адпаведных краін аб сумесных дзеяньнях супроць фашызму.

У аснову згодаў Выканком Комінтэрну прапануе пакласьці наступныя ўмовы:

> «Комуністы і соцыял-дэмократы безадкладна прыступаюць да організацыі

і правядзеньня адпору атакам фашызму і рэакцыі на палітычныя, прафсаюзныя, коопэрацыйныя і іншыя організацыі рабочых, на рабочы друк, на свабоду сходаў, дэмонстрацый і стачак. Яны організуюць сумесны адпор узброеным нападкам фашысцкіх банд шляхам правядзеньня масавых протэстаў, вулічных дэмонстрацый, масавых палітычных стачак; яны прыступаюць да організацыі масавых комітэтаў дзеяньня на прадпрыемствах, на біржах працы і ў рабочых кварталах, таксама як і да організацыі атрадаў самаабароны.

Комуністы і соцыял-дэмократы безадкладна прыступаюць да організацыі протэсту рабочых праз мітынгі, дэмонстрацыі і стачкі супроць усякага зьніжэньня зарплаты, супроць пагоршаньня ўмоў працы, супроць замаху на соцыяльнае страхаваньне, супроць урэзкі дапамог па беспрацоўі, супроць звальненьня з прадпрыемстваў» (з адозвы Комінтэрну ад 5/III-33 г.).

Германскай соцыял-дэмократычнай партыі, якая ўсё яшчэ карыстаецца значным уплывам у нямецкай рабочай клясе, прадастаўлен быў выбар: ісьці разам з комуністамі на барацьбу з фашызмам, або прадаўжаць палітыку згодаў нават з фашыстамі, з найбольш рэак-

цыйнай сілай капіталізму. Кіраўніцтва с.-д. партыі Германіі і кіраўніцтва рэформісцкага Ўсегерманскага аб'яднаньня профсаюзаў адхіліла прапанову компартыі аб ядыным фронце супроць фашыстаў.

Якую-б палітыку прадажніцтва рабочых не павялі соцыял-дэмократы, ядыны фронт рабочай клясы створыцца і будзе ствараццa ў барацьбе супроць буржуазіі і фашызму.

Посьпехам комуністычнага руху ня змогуць перашкодзіць ні фашысцкі тэрор, ні прадажніцтва соцыял-дэмократыі.

## Задачы германскай компартыі

Прыход да ўлады Гітлера (фашыстаў) зьяўляецца этапам у гісторыі клясавай барацьбы германскага народу, у гісторыі барацьбы германскай контррэволюцыі і рэволюцыі.

Рост нямецкага фашызму зьяўляецца ўвесь час рэзультатам не ўзмацненьня германскай буржуазіі, а рэзультатам росту развалу германскага капіталізму, рэзультатам узмацненьня рэволюцыйнай небясьпекі.

Тэмп фашысцкай мобілізацыі, дзякуючы ўплыву соцыял-дэмократыі на частку рабочай клясы, да гэтага часу пераўзыходзіў тэмпы мобілізацыі рабочай клясы пад сьцягам Комуністычнай партыі, ядына здольнай прывесьці пролетарыят да перамогі.

Асаблівасьць абстаноўкі ў момант гітлераўскага перавароту заключаецца ў тым, што ўмовы пераможнага паўстаньня не пасьпелі яшчэ насьпець к таму часу,—яны былі толькі ў зародкавым стане.

Авангард пролетарыяту — комуністычная партыя, не жадаючы ўпадаць у авантурызм, ня мог, вядома, узьмясьціць сваімі дзеяньнямі гэты недастаючы фактар.

Комуністычнай партыі яшчэ не ўдалося заваяваць большасьці пролетарыяту. «Бяз большасьці пролетарыяту ісьці ў бой за заваёву ўлады ў краіне з высокай ступеняй організацыі народных мас,—азначала ісьці на авантуру, тым больш, што крызіс выбіў са сьпячкі і палітычнай абыякавасьці найшырэйшыя масы дробнай буржуазіі і штурхнуў іх у лягер фашызму».

> «Пролетарскі авангард ідэйна заваёван. Гэта галоўнае. Бяз гэтага нельга зрабіць і першага кроку да перамогі. Але ад гэтага яшчэ даволі далёка да перамогі. З адным авангардам перамагчы нельга. Кінуць адзін толькі авангард у рашучы бой, пакуль уся кляса, пакуль шырокія масы не занялі позыцыі або прамой падтрымкі авангарду, або, прынамсі, пажаданага нэйтралітэту ў адносінах да яго і поўнай няздольнасьці падтрымліваць яго праціўнікаў, было-б

ня толькі глупствам, але і злачынствам. А для таго, каб сапраўды ўся кляса, каб сапраўды шырокія масы працоўных і прыгнечаных капіталам дайшлі да такой позыцыі, для гэтага аднэй прапаганды, аднэй агітацыі мала. Для гэтага патрэбен уласны політычны вопыт мас. Такі асноўны закон усіх вялікіх рэволюцый, пацьверджаны цяпер са зьдзіўляючай сілай і рэльефнасьцю ня толькі Расіяй, але і Германіяй» (Ленін,—«Дзіцячая хвароба «лявізны»).

**«Рэволюцыйны ўздым у Германіі,— гаворыцца ў рэзолюцыі Прэзыдыуму ВККІ,—насуперак фашысцкаму тэрору, нямінуча будзе нарастаць. Адпор мас фашызму ня можа не расьці. Устанаўленьне адкрытай фашысцкай дыктатуры, разьбіваючы ўсе дэмократычныя ілюзіі ў масах і вызваляючы масы з-пад уплыву соцыял-дэмократыі, паскарае тэмп разьвіцьця Германіі да пролетарскай рэволюцыі.**

Задачай комуністаў павінна быць: разьясьняць масам, што ўрад Гітлера вядзе краіну да катастрофы. Цяпер неабходна з большай, чым калі-небудзь, энэргіяй папярэджваць масы, што адзінае выратаваньне працоўных мас ад яшчэ большай галечы і нястачы, адзіны сродак папярэдзіць катастрофу—гэта

пролетарская рэволюцыя і дыктатура пролетарыяту. Неабходна змагацца за згуртаваньне ўсіх сіл пролетарыяту і стварэньне ядынага фронту соцыял-дэмократычных і комуністычных рабочых для барацьбы з клясавымі ворагамі. Патрэбна ўмацоўваць партыю і ўзмацняць усе масавыя організацыі пролетарыяту, **падрыхтоўваючы масы да рашаючых рэволюцыйных бітваў, да зьвяржэньня капіталізму, зьвяржэньня фашысцкай дыктатуры шляхам узброенага паўстаньня»** (з рэзолюцыі Прэзыдыуму ВККІ).

Гэты політычны вопыт мас, гэтае вызваленьне мас з-пад уплыву с.-д.—гэтай галоўнай апоры буржуазіі ў рабочай клясе, адбываецца зараз, калі фашызм выкрывае сваю буржуазную, крывавую сутнасьць, калі наша брацкая германская компартыя высока трымае—за ўмовах фашысцкага тэрору—сьцяг пролетарскай рэволюцыі і організоўвае масы на барацьбу з фашысцкім тэрорам, з фашысцкім рэжымам голаду і галечы.

Пад сьцягам савецкай Германіі, пад сьцягам Леніна наша брацкая КПГ здолее ў самы кароткі тэрмін зорганізаваць і ўзьняць на рашучы бой мільённыя масы пролетараў Германіі і іх саюзьніка—працоўнае рэволюцыйнае сялянства.

Колькасьць галасоў, паданых пры выбарах у Германскі рэйхстаг (у тысячах галасоў)

| Назва партыі | 1924 г. | 1928 г. | 1930 г. | 31/VII-32 г. | 6/XI-32 г. | 5/III-33 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Соц.-дэмократы | 7900 | 9100 | 8577 | 7959 | 7231 | 7 176 |
| Нацыяналісты. | 6200 | 4400 | 2458 | 2177 | 3061 | 3 132 |
| Цэнтр і баварская народная партыя . | 5200 | 4600 | 5600 | 5676 | 5310 | 5 479 |
| Комуністы. . | 2700 | 3300 | 4592 | 5282 | 5970 | 4 843 |
| Дзярж. партыя | 1900 | 1500 | 1322 | 371 | 337 | 333 |
| Нацыянал - соцыялісты . | 900 | 800 | 6109 | 13745 | 11705 | 17 265 |
| Народн. партыя | 3000 | 2700 | 1578 | 436 | 659 | 432 |

**Нацыяналісты і нацыянал-соцыялісты**— крайня-правыя, рэакцыйныя буржуазныя партыі.

**Цэнтральныя і народныя партыі**—лібэральныя буржуазныя партыі.

**Соцыял-дэмократы** — рабочая згодніцкая партыя, левае крыло буржуазіі.

**Комуністы** — адзіна-рэволюцыйная рабочая партыя.

